# радавая Беларусь

№6(15) 12 верасьня 2000 г. Заснавана 1 лютага 1920 г. Адноўлена 26 студзеня 1999 г. 2(16) год выданьня.




БЕЛАСТОК. РАТУША. 1745 г.

# ЦІ Ж МЫ СЛАВЯНЕ?

## КОЛЬКІ СЛОЎ ПРА БАЛЦКІЯ КАРАНІ БЕЛАРУСАЎ

Вінцэнты ПЯТРОЎСКІ



"Славянскасьць" беларусаў становіць стрыжань ідэалёгіі цяперашняга рэжыму, але наколькі ён трывалы? Як вядома, да прыйсьця на тэрыторыю цяперашняе Беларусі славянскіх плямён у другім тысячагодзьдзі нашай эры, гэтта жылі балты. Паступова, паводле адной з вэрсій, яны нібыта былі выціснуты каляністатарамі да берагоў Балтыйскага мора. Няўжо тысячы людзей маглі ўцячы з сваіх здаўна абжытых земляў ды пакінуць іх чужынцам?

Напэўна, было інакш. Прыход славян, вядома, выклікаў пэўную міграцыю тубыльцаў-балтаў на поўнач, але большыня жыхарства засталася на сваіх землях і надалей, паступова трапляючы пад моўна-культурную асыміляцыю з боку прыхадняў. Сытуацыя тагачасная магла быць падобнаю да цяперашняе беларускае. Балты прымалі мову славян цягам вякоў – паступова зь мешаніны гаворак фармавалася беларуская мова, спазнаўшы ўжо ў пазьнейшую эпоху нямецкі, польскі й расейскі ўплывы. Гэтак што мы ня зь неба зваліліся, а жылі тут спрадвеку, шторазу ўбіраючы ў сябе рознакультурныя ўплывы. Неўзабаве славяне прынялі хрысьціянства й разам з славянскаю гаворкаю ў балцкі масіў пачала трапляць новая вера – асыміляцыя мацнела, бо людзі тагачасныя, як і цяперашнія, наўрад ці дбалі пра сваю этнічна-лінгвістычную адметнасьць: пад ботам акупанта галоўнае было – выжыць. Што да этнічнага аблічча краю, яно, напэўна, за тысячу з гакам гадоў ад прыйсьця славян істотна не зьмянілася. Беларусы дагэтуль захавалі антрапалягічныя рысы сваіх продкаў, што лёгка спраўдзіць, зірнуўшы на нашых крэўных братоў – латышоў і літоўцаў. Пра "балцкасьць" нашае мовы добра сьведчаць параўнальныя аналізы беларускае й суседніх моў. Найбліжэйшая да нашае паводле фанэтыкі мова латыская, дзе толькі два гукі – [м] і [н], падобныя вымаўленьнем да расейскіх [д'] і [т'], – не існуюць у беларускай літаратурнай мове. Дзеканьне й цеканьне ўласьціва ў нашым рэгіёне выключна нам і латышом.

Сьведчаньнем нашае неславянскасьці можа быць раўналежнасьць, праведзеная зь цяпер неіснуючаю групаю балцкіх плямён прусаў. Продкі немцаў, якія жылі да вайны ўва Усходняй Прусіі, былі асыміляваны германцамі, пераняўшы іхныя мову й культуру, а гэтаксама зьмяніўшы й сваё этнічнае аблічча. Жорсткае анямечваньне прывяло да канчальнага вынішчэньня прусаў у XVIII стагодзьдзі. Гэткая самая пагроза вісела (ды, зрэшты, і вісіць) над намі з боку... "славян". Да далучэньня да Расеі беларусам пагражала славянізацыя польская, а ад другое чвэрткі XIX стагодзьдзя – расейская. Наша адметнасьць – балцка-славянская мова, тыповыя балцкія антрапалягічныя рысы, традыцыі, што сягаюць паганскага сьветагляду й задзіночаньня з прыродаю, незразумелыя цалкам хрысьціянізаваным суседзям зь іхнімі каталіцкім і праваслаўным сьветаглядамі. Беларусы ж, не належачы да славян этнічна, але аддзеленыя моваю й часткова культураю ад сваіх суседзяў балтаў, не маглі самаўсьведаміцца нацыянальна й вылучыцца ў самастойны этнас. Мы былі народжаны для таго, каб стацца нацыяй мяшанай – этнічна й моўна.

Славянская каляністацыя балцкіх земляў літвы, яцьвягаў, прусаў, дзяволты, латгалаў, нальшчаны, дайновы й мноства іншых плямён адбывалася да пачатку XX стагодзьдзя й сьпынілася на мяжы з гістарычнай вобласьцяй Жамойцяй – у цяперашняй Літве й у паўночнай Латгаліі – у сёньняшняй Латвіі. Міжваенная Літоўская Рэспубліка небеспадстаўна прэтэндавала на беларускія абшары ажно да Горадні й Маладэчна, бо на той час там яшчэ жылі неасыміляваныя "літоўцы". А ці літоўцы? Гэта былі нашы суродзічы, якія яшчэ захоўвалі сваю неславянскасьць, а рэшта нас, даўно трапіўшы пад культурную экспансію мацнейшых прыхадняў, ужо жыла новым, нібыта "славянскім" жыцьцём. Вядомы факт – яшчэ сто гадоў таму ў некаторых вёсках Віленшчыны дома гаварылі па-свойму, па-балцку, а на дварэ, у грамадзе, па-беларуску. Гэтак і цяпер у некаторых мясцовасьцях на Палесьсі можна пачуць у камунікаваньні на вуліцы мову беларускую, а ў хаце – мясцовую гаворку. Пра падобныя, толькі што адваротныя, працэсы сьведчыць Аляксандар Цьвікевіч, колішні ўрадовец Беларускае Народнае Рэспублікі, пішучы ў сваім артыкуле "Пяць год. (Беларусы ў Латвіі)" у газэце "Савецкая Беларусь" (№207, 12 верасьня 1926 г.): "... Пачалася ўзмоцненая латышызацыя беларускіх вёсак, у чым прынялі ўдзел ня толькі ўрад і палітычная прэса, але і "навуковыя" органы. ("Izglitibas Ministerijas Menesraksts"). Узьняліся тэорыі, што беларусы – гэта крывічы, а крывічы – гэта абсловяненыя латышы..." Стэрэатыпы Цьвікевіча, умацаваныя сьцьверджаньнямі прафэсара Аўхіма Карскага пра беларусаў, як пра "найчысьцейшых славян", не давалі яму зірнуць на праблему "латышызацыі" беларускіх вёсак інакш. А вось калі пакорпацца ў латыскіх газэтах і архівах, дык, напэўна ж, можа выплысьці нечаканая інфармацыя на гэты конт. Крывічы ня толькі маглі быць "абсловяненымі латышамі", а менавіта гэткімі й былі. Паганскі сьвятар Крывэ-Крывэйтэ быў не славянскім, а "літоўскім", мястэчкі Крэва й Крывічы ды іншыя – яшчэ нядаўна балцкамоўныя высьпы ў беларускім "славянскім" моры. Дый самі крывічы – гэта спрадвечныя насельнікі абшару ад цяперашняга Пскову й Мажайску да Полацку й Крывіч-гораду – Вільні. Крывічы – этнічныя балты-вяскоўцы й славянская меншыня ў гарадох; няспынныя паходы "літоўскіх" князёў на славян – усё гэта факты. Паведамленьні ж кіеўскіх летапісцаў пра "славян" – крывічоў, дрыгавічоў, радзімічаў ды г. д. – ці не палітычны заказ? Ці не называліся "славянамі" крывічы гэтаксама як называюць пэўныя арганізацыі й структуры беларусаў "рускімі"? Палітыка і тады, і цяпер рабілася бруднымі рукамі. Прусія – ці ж Нямеччына? Крывія – няўжо Славяншчына? У публіцыстычным артыкуле нельга акрэсьліць праблемы строга й даць дакладных ацэн. Вызначаны кірунак – далей маюць працаваць навукоўцы й спэцыялісты.

Пры канцы толькі зацемім: прыродныя этнічныя працэсы на нашых землях былі гвалтам спынены па падзеле краю між наноў утворанымі ў 1917 – 18 гг. дзяржавамі. Літуанізацыя, латышызацыя, паланізацыя, русіфікацыя, беларусізацыя зрабілі сваю справу – быў разбураны супольны лад жыцьця цэльнага народу. Беларуская мова, што фармавалася цягам тысячагодзьдзя з гакам, гвалтам была заменена на невядомыя гаворкі новых прыхадняў. Гэтак што, цяпер ня толькі марна, але й нерэальна ў будучыні задзіночыць усе беларускія землі ў адной дзяржаве ў "этнаграфічных" межах Народнае Рэспублікі 1918 году. Але гаварыць пра гэта трэба, бо гэта наша трагедыя: нацыя ня толькі не сфармавалася, але й распалася. Цяперашнія беларусы – гэта этнічнае месіва савецкага гатунку. Наплыў расейцаў, азіятаў наагул, выгнаньне часткі тубыльцаў на ўсход і захад у часе войнаў і рэпрэсій акупантаў міжваеннага, ваеннага й паваеннага пэрыядаў зьмянілі ня толькі моўнае аблічча краіны, але й антрапалягічнае. Невядомыя дагэтуль беларуска-расейскія й беларуска-іншанацыянальныя шлюбы (гэтта маюцца на ўвазе шлюбы між беларусамі й неаўтахтонамі, якімі ёсьць нетутэйшыя іншародцы ў процівагу спрадвечным насельнікам Беларусі іншых народнасьцяй) сталіся нормаю, у тым самым часе беларусы адрэзаны ад сваіх натуральных братоў – літоўцаў і латышоў – дзяржаўнаю граніцаю. Перавага "чыстых" з расавага гледзішча тубыльцаў цяпер нязначная, што добра відаць, асабліва ў местах. Што да вёскі, дык яна сьпіваецца й вымірае, а разам зь ёю й аснова нацыі – "тутэйшыя" вяскоўцы.

Вядома, што адзіным выйсьцем для захаваньня беларускае нацыі й ейнага вонкавага ды нутранога аблічча – антрапалягічнага й моўнага – можа быць толькі стварэньне праўдзівае дзяржаўнае граніцы з Расеяю й вяртаньне краіны да сваіх спрадвечных крэўных хаўрусьнікаў – літоўцаў і латышоў, гэтаксама як і да блізкіх моваю палякаў і украінцаў.

# НАЦНЭТ НА ПАДЫХОДЗЕ

Віталь АЛЕКСАНДРОВІЧ

Пакуль архаічныя сілы ў беларускім руху скардзяцца, што не разьвінуты, маўляў, у нас інтэрнэт, авангард беларускага нацыяналізму жвава асвойвае віртуальную прастору. Атрымалі шырокую вядомасьць і актыўна наведваюцца старонкі правае газэты "Слова Нацыі" (www.crosswinds.net/~slova), абвесьніка "Молат" (www.geocities.com/molat 88), інфармацыйнага агенцтва "Правае рэха" (www.recha.cjb.net). З апошнім сайтам, дарэчы, зьвязаны цікавыя падзеі. Месяц з гакам таму беластоцкая газэта "Ніва" слова ў слова надрукавала зьмешчаную на старонцы "Правага рэха" інфармацыю ад аднаго з карэспандэнтаў, які напісаў, што гарадзенскія музыкі-антыфашысты на музычным фэстывалі "Басовішча – 2000" ірвалі намаляваную на ватмане свастыку й таптаі "нацыянал-фашысцкі" бела-чырвона-белы сьцяг ды публічна мацюкаліся ў мікрафон, хаця самі музыкі гэта катэгарычна адмаўляюць. А менская газэта "Наша Ніва" ў адным з нумароў аспрэчыла зьмешчаныя на сайце "Правага рэха" зьвесткі пра тое, што артадаксальныя жыды, прафундаваўшы "гэбрайскі нумар" часапісу "Arche", запатрабавалі зрабіць дадатковы наклад, бо ім неспадабалася вокладка зь беларускаю дзяўчынаю ў напаўаголеным выглядзе. І вельмі праўдападобна, што гэтым разам "Правае рэха" гаварыла праўду – "гэбрайскі нумар" часапісу "Arche" неўзабаве насамрэч выйшаў дадатковым накладам зь іншаю вокладкаю. Гэта сьведчыць пра найгалоўнейшае – у кожным разе рознага кшталту інфармацыя патрабуе спраўджваньня, няхай праўда й была б страшнаю.



# ЗДРАДА

## СМІ пра РНЕ

"Уважаемые радиослушатели!" – гэтак пачынаецца прапагандавая перадача першае праграмы дзяржаўнага радыё "Разговор по существу". У беларускую мову назоў гэтае праграмы не перакладаецца, альбо, калі перакладаць, дык наўрад пераклад будзе дакладным – "Гутарка пра істотнае" ці што? Істотнага ў перадачы тэй мала, калі не сказаць – зусім нічога няма, бо нездарма ж некаторыя дзівяцца: "Няўжо там гэткія дурні сядзяць?!" У журналісцкай сям'і гэтаксама ёсьць выродкі. А дзе іх няма? Асабліва шмат іх у "народных" газэтах і на "беларускім" радыё. Ведаць іх мусіць кожны, каб своечасна вылучыць свой прыймач ды не чытаць газэты, што піша хлусьню.

Галоўны хлус "нацыянальнага" радыё – Ніна Чайка. Яна нібы пераляцела машынаю часу праз смугу дзесяцёхгодзьдзяў з 1930-х гг. у канец 1990-х гг. Наша газэта не пісала б пра таварыша Чайку, каб не адна акалічнасьць, што спадарожнічае пільнай увазе з нашага боку да гэтае "дамачкі". Як вядома, на пачатку жніўня быў зарэзаны галоўны расейскі фашыст у Беларусі Глеб Самойлаў. Хто яго забіў – няясна: можа гэта спэцыяльныя службы традыцыйным чынам адправілі сьведку й свайго колішняга калегу ў вынішчэньні беларускага духу зь беларускае зямлі туды, дзе заўжды сьвеціць сонца, а можа гэта свае "прыбралі" свайго. Зрэшты, нас не цікавяць акалічнасьці сьмерці гаспадзіна Самойлава.

Нас цікавіць рэзананс на ягоную сьмерць. Некаторыя "незалежныя" сродкі масавай інфармацыі вылучыліся грунтоўнымі тэкстамі з усімі драбніцамі й вялізнымі фатаздымкамі на першых палосах пра пахаваньне й вэрсіі забойства пасьлядоўніка ідэй Гітлера й Сталіна. Найбольш вызначылася ў "рэкламаваньні" "Русского национального единства" "Белорусская деловая газета". Зразумела, што пры адсутнасьці значных падзей у краіне, пакуль з свайго бярлогу адно за адным ня выпаўзуць на Бангалор "апазыцыянэры", няма пра што пісаць, а сьмерць фігуры адыёзнае – заўжды сэнсацыя. У гэткім разе ніхто ня думае пра наступствы, а толькі пра карысьць, якую дасьць публікацыя гэткага матар'ялу. І калі да сьмерці Самойлава мала хто ведаў, што ёсьць РНЕ, дык цяпер пра тое ведаюць усе, хто тымі днямі слухаў радыё й чытаў газэты. Здаецца, што пра сьмерць галоўнага патрыёта "Северо-западного края" не напісалі толькі "Советская Белоруссия" ды "Звязда". Дзяржаўная тэлевізія ж круціла цэлы сэрыял, нібы памёр не Самойлаў, а ягоны аднадумец... Трохі менш увагі надало гэтай падзеі радыё. Але якой увагі! І гэтта найбольшую ролю адыграла цётка Чайка.

Вось што сказала Ніна Чайка 9 жніўня 2000 году ў простым эфіры перадачы "Разговор по существу": "Уважаемые радиослушатели! Вы только что слушали политическое табло нашего обозревателя Николая Сергеева и услышали эту печальную новость, что погиб Глеб Самойлов – этот прекрасный чистый романтичный молодой человек, который делал честь всей белорусской нации". Чуеце, людцы, гэтае нацысьцянё, якое сьніла канцлягеры для беларусаў і жыдоў, насамрэч – наш гонар! Хто ж вінаваты, што "гонар" заўчасна пакінуў нас?

На гэтае пытаньне адказвае згаданы ўжо Нікалай Сяргееў, колішні правадыр "Славянскага сабору "Белая Русь"", а цяпер "палітоляг" мураўёўскага гатунку: "Безусловно, что виновные в этом зверском убийстве будут найдены и понесут заслуженное наказание. Однако уже сегодня можно сказать, что моральную ответственность за это преступление несёт на себе белорусская оппозиция, так как именно Глеб Самойлов в последние годы как никто другой наиболее последовательно отстаивал идею воссоединения Великой, Белой и Малой Руси в единое государство, что теперь пытаются опорочить враги всего славянского мира". Такім чынам, паводле вэрсіі таварыша Сяргеева, Вінцук Вячорка з прыкрыцьцём з боку спадара Статкевіча ды з тэхнічным забясьпечаньнем ад пана Чыгіра забіў гаспадзіна Самойлава й схаваўся, а цяпер распаўсюджвае з свайго штабу зьвесткі, што забойства гэнае – вынік нутраных звад КГБ і РНЕ. Хіба так, калі мы вас правільна зразумелі, таварышу Нікалаю?

Да ўсяго сказанага дадамо колькі слоў нашага, рэдакцыйнага меркаваньня што да забойства "баркашоўца". Гэтае здарэньне з Самойлавым ня варта ўвагі, бо ўскосна прапагандуе "Русское национальное единство" і спрыяе зацікаўленьню гэтай арганізацыяй з боку патэнцыйных прыхільнікаў нэафашызму маскоўскага разьліву ў Беларусі. На нашу думку, тыя выданьні, што зьмясьцілі інфармацыю й ілюстрацыі пра РНЕ ды ягонага колішняга "фюрэра", ненаўмысна зьдзейсьнілі акт, што стаіць упоравень з здрадаю нацыянальным інтарэсам краіны.

# ДЗЕ РАНЕЙ ГУЧЭЛІ ЦАРКОЎНЫЯ ЗВАНЫ

## (У БЕЛАРУСКІМ ДЗЯРЖАЎНЫМ МУЗЭІ)

К. І.

«САВЕЦКАЯ БЕЛАРУСЬ» № 207 (1802) 12 верасьня 1926 г.

**Беларускі Дзяржаўны Музэй зьмяшчаецца ў былых пакоях праваслаўнага біскупа і займае яшчэ частку былой царквы. Ва ўсім музэйным памяшканьні зараз заканчваецца генэральны рамонт. Памяшканьне былой царквы з высокім скляпеньнем падзелена зараз на два паверхі, дзякуючы чаму музэй атрымаў цэлы шэраг новых пакояў. Пасьля рамонту памяшканьне музэю набыло нязвычайна прыгожы выгляд. На сьценах, калёнах і скляпеньнях, дзе раней былі малюнкі "бога-саваофа" і сьвятых, цяпер разгарнуліся кутасы мастацка падабраных беларускіх народных арнамэнтаў, якія робяць моцнае ўражаньне і прыемна вабяць вока гледача сваім нязвычайным характарам і differentnastaйнымі тонамі. За 5 год свайго існаваньня музэй сабраў вельмі шмат каштоўных рэчаў, якія зьмешчаны па аддзелах.**



Супрацоўнікі Беларускага дзяржаўнага музэю. 1920-я гг.

### Архэолёгічны аддзел

У архэолёгічным аддзеле музэю знаходзіцца каля 200 экспанатаў каменнага веку і іншыя старажытныя рэчы, якія далі раскопкі ў Заслаўі, каля Менску, Нова-Быхава і р. Ухлясьці. Тут таксама зьмешчаны знойдзеныя ў межах Беларусі косткі дагістарычных жывёлін (мамонта і інш.).

У пададдзеле нумізматыкі знаходзіцца каля 14 тысяч розных гістрычных манэт і мэдаляў.

У музэй паступаюць цэнныя клады з розных куткоў БССР; паміж імі ёсьць арабскія і заходне-эўрапейскія манэты 8 – 12 сталецьця.

Зараз у музэі зьбіраюцца старажытныя рэчы, якія маюць дачыненьне да гісторыі старога Менску, напрыклад: фатаграфіі, зарысоўкі і пляны.

### Этнаграфічны аддзел

Этнаграфічны аддзел налічвае каля 200 тысяч экспанатаў. Трэба аднак сказаць, што ў нас мала экспанатаў паасобных акругаў.

Тым часам ёсьць такія віды адзеньня, якія трэба неадкладаючы вывучыць і захаваць. Напрыклад: у некаторых мясцох Слуцкай акругі захавалася адмысловае адзеньне кабет, у якое апранаюцца, калі бяруць шлюб.

### Мастацкі аддзел

На жаль, трэба адзначыць, што ўласнымі мастацкімі творамі наш музэй ня вельмі багат. Гэта тлумачыцца тым, што грамадзянская і імпэрыялістычныя войны ў межах БССР разбурылі розныя мастацкія рэчы. Мастацкі матар'ял музэю ці паступіў выпадкова, ці яго атрымалі з музэйных фондаў Савецкага Саюзу. Зараз з Масквы паступіла да 80 расейскіх малюнкаў, паміж якімі ёсьць малюнкі выдатнейшых мастакоў: Рэпіна, Серава, Айвазоўскага, Паленава і шмат іншых. Апроч таго, музэйны пададдзел Глаўнавукі дакляраваў даць невялічкую калекцыю малюнкаў францускай, галяндзкай і італьлянскай школ з запасаў эрмітажу. З фондаў наш музэй атрымаў некаторую калекцыю парцалянавых рэчаў, бронзы і гравюр.

На вялікі жаль, аддзел гэты зусім не адбівае беларускага мастацтва. Праўда, тут ёсьць некаторыя малюнкі ўраджэнцаў Беларусі, але іх вельмі мала. Брак сродкаў не дае магчымасьці музэю набыць з усебеларускай мастацкай выстаўкі экспанаты, дзе было так многа малюнкаў і іншых мастацкіх рэчаў з адбіткам беларускага нацыянальнага стылю і характару.

### Яўрэйскі аддзел

Нягледзячы на тое, што яўрэйскі аддзел існуе толькі 2-гі год, ён мае ўжо значны лік экспанатаў. Гэты аддзел падзяляецца на дзьве часткі: экспанаты старажытнага яўрэйскага быту і экспанаты з сучаснага жыцьця. У першым аддзеле сабраны старыя яўрэйскія гравюры, розныя аздобы да дзесяцёр, зарысоўкі старажытных помнікаў і ківатаў, тыповыя зарысоўкі насьценных малюнкаў Магілёўскай сынагогі, экспанаты архітэктуры даўнейшай пабудовы сынагог і інш.

Тут таксама багата розных экспанатаў з жыцьця дзяцей: розныя амулеты процiў уроку, хваробы, розныя дзіцячыя цацкі, а таксама экспанаты з жыцьця аджыўшага хэйдэра (раней – пачатковая яўрэйская школа).

Ёсьць многа розных каштоўных рукапісаў.

### Прамыслова-фабрычны аддзел

Музэй мае намер арганізаваць прамыслова-фабрычны і саматужны аддзел, дзеля чаго ўвайшоў у кантакт з ВСНГ, з Управай Камунальнай Гаспадаркі і з рознымі паасобнымі прадпрыёмствамі.

### Царкоўныя каштоўнасьці

У царкоўным аддзеле знаходзяцца рэдкія старажытныя царкоўныя рэчы і прылады. Тут сабрана каля 1500 розных беларускіх абразоў, вельмі каштоўныя бібліі (біблія князя Радзівіла), царкоўныя рызы і прадметы набажэнства ня толькі праваслаўнай царквы, але таксама вуніяцкай і каталіцкай.

### Перашкоды ў працы

Галоўная перашкода ў працы музэю – гэта страшэнная цесната. Нястача памяшканьня прымушае трымаць экспанаты дзе-небудзь у цесным пакойчыку. Ад нястачы памяшканьня затрымліваецца сама работа вывучэньня экспанатаў, а некаторыя экспанаты пачалі нават ужо псавацца. Навуковым супрацоўнікам музэю таксама няма дзе павярнуцца.

Тым часам ёсьць тут побач адпаведнае памяшканьне – гэта першы паверх былой царквы, дзе можна было-б зьмясьціць музэй прыроды ІБК (па глебазнаўству, батаніцы і зоалёгіі), які таксама мае быць перанесен у памяшканьне Дзяржаўнага Музэю. Але-ж гэта памяшканьне, дазарэзу патрэбнае музэю, занята пэдагагічнымі курсамі.

Тыя ўстановы, якія зацікаўлены ў нармальным разьвіцьці працы музэю, павінны зрабіць рашучыя захады і перавесьці курсы ў іншае месца.

# АБ АДНЭЙ «ЗДРАВОМЫСЛЯЩЕЙ» АНКЕЦЕ

Сёмка

«САВЕЦКАЯ БЕЛАРУСЬ» № 206 (1505) 12 верасьня 1925 г.

Вось толькі што атрымаў анкету і, прымаючы пад увагу голас рэдакцыі: "просим ответом не задерживать", зараз-жа пачаў запаўняць яе: "Анкета для читателей журнала "КООПЭРАТЫЎНАЕ ЖЫЦЬЦЁ" о том, насколько Вас удовлетворяет наш журнал и что нужно изменить".

Анкета мае чатыры разьдзелы: I "Содержание журнала", II "Внешность", III "Язык" і IV "Кто читает наш журнал".

Я пачаў з III разьдзелу па тэй прычыне, што, паперашаму я "журналочитатель", а падругому і "писатель", і назва III разьдзелу – "Язык" мае блізкія адносіны да маіх допісаў.

Дык вось, разьдзел III "Язык" (журналу):

11. "Понятен ли язык и изложение?"

– "Оккупация кайзеровской олигархии", "традиции", "выкристализовалась" (№ 7, 1 стр.), "реформистов", "нейтральности", "рельефнее" (№ 6, 1 стр.), "порядок хаоса и неразберихи плановостью и закономерностью" (№ 9, 1 стр.), "полуфабрикатов" (№ 10, 1 стр.).

– Не, хоць трэсьні – не разумею!

12. "Много ли непонятных слов?"

– Усіх і разуўшыся ня зьлічу-у-у!

13. "Читаете ли статьи на белорусском языке и на каких языках желательно печатать?"

– Ага-а-а. Вось калі раскрыў сакрэт. Значыцца ўсе мае допісы пабеларуску не друкаваліся загэтым...

Цяпер я "понял"! Ня буду траціць марак на пісьмы! Шчыра дзякую!

Значыцца, вы таварышы, пытаецеся, на якой мове друкаваць беларускую часопісь? Я вас "понял"!

– Трэба друкаваць на кітайскай, японскай, турэцкай і інш. апрача беларускай.

15. "Как писать, более кратко или полно?"

– Чым больш і гусьцей, табольш ужывайце "олигархии", сяляне будуць думаць, што дзёгаць!

16. "Общая оценка журнала (что хорошо, что плохо)".

– Трэба перастаць друкаваць беларускія артыкулы, а больш даваць "рельефно-нейтральных" артыкулаў аб "хаосе".

II разьдзел "Внешность".

9. "Достаточно ли рисунков?"

– Трэба ў наступным нумары зьмясьціць партрэты рэдкалегіі.

# ВАЛАДАР НОВАЕ БЕЛАРУСІ

## ВІЛЬГЕЛЬМ КУБЭ – НЕТЫПОВЫ АКУПАНТ

Францішак ШУМСКІ

Апраўданьне злачынстваў рэжыму, усталяванага нямецкімі акупантамі ў часе другое сусьветнае вайны ў Беларусі – злачынства ня меншае. Але важна зразумець – чаму ў 1941 годзе адны беларусы пайшлі на супрацоўніцтва зь немцамі ў тым часе, як іхныя браты рушылі ў савецкія партызаны? Як патлумачыць росквіт беларускага нацыянальнага жыцьця (нацыяналізму – калі хочаце) пад немцамі на тле ягонага заняпаду (задушэньня!) у міжваеннай Польшчы і ў савецкай Беларусі? Гэтаму шмат у чым паспрыяла неадназначна ацэньваная рознымі дасьледнікамі й ідавочцамі тых падзей постаць генэральнага камісара Беларусі Вільгельма Кубэ (13.11.1887 г., Глогаў на Одры – 22.09.1943 г., Менск) – аднаго з заснавальнікаў Нацыянал-сацыялістычнае работніцкае партыі Нямеччыны, сябра Гітлера, які шчыра жадаў паўстаньня самастойнае беларускае дзяржавы. Гэтак сталася, што фармальны акупант Кубэ паводзіў зусім інакш, як некаторыя кіраўнікі фармальна "самастойнае" Беларусі.

Падзеі другое сусьветнае вайны ня могуць не цікавіць нас, беларусаў. Нягледзячы на тое, што краіна была акупавана нямецкімі войскамі, а жыхарства знаходзілася ў бясспраўным становішчы ў варунках няспыннага тэрору, усё ж гэта быў пэрыяд, калі адбываліся й станоўчыя зьмены, бо менавіта ў гэтым часе ўпершыню былі створаны рэальныя магчымасьці для разьвіцьця беларускае мовы й культуры – найважнейшых чыньнікаў існаваньня й поступу кожнае нацыі.

Але нямецкага спрыяньня было ня гэтак лёгка здабыць, пагатоў ня ўсе немцы з даверам ставіліся да ініцыятыў беларусаў. Гітлер на момант уварваньня нямецкага войска на тэрыторыю Беларусі ня меў нават уяўленьня пра будучае ўладкаваньне адміністрацыйна-гаспадарчага жыцьця краю… ажно да канца вайны. Гэта сталася прычынаю няпэўных паводзін і няўдач нямецкіх улад у Беларусі. Калі кіраўнікі нямецкага войска й паліцыі не ўважалі за канечнасьць дбаць пра інтарэсы беларусаў, якіх плянавалася асыміляваць, дык іншае думкі пільнаваўся Вільгельм Кубэ, ад пачатку акупацыі да самае сьмерці – генэральны камісар Беларусі. Гэты чалавек, які вонкава быў прыхільнікам палітыкі Райху на акупаваных абшарах, насамрэч ня толькі не спрыяў забойству жыдоў, але й адкрыта выступаў супраць гэтага ды шчыра дапамагаў беларускім актывістам у павышэньні роўню нацыянальнае сьведамасьці беларусаў, у адкрыцьці школ, выданьні кніг і газэт. Вільгельм Кубэ насуперак плянам бэрлінскіх палітыкаў бачыў у беларусах не




Менск пад нямецкай акупацыяй 1941 - 44 гг. Будынак Генэральнага камісарыяту Беларусі на пляцы Волі

паняволены Нямеччынай народ, а вызвалены ёю ад бальшавікоў, Беларусь жа – як патэнцыйнага хаўрусьніка Нямеччыны. Дзеля стварэньня беларускай інтэлігенцыі, здольнай у будучыні ўзяць уладу ў свае рукі, цалкам апанаваўшы ўсе роўні грамадзкага жыцьця замест палякаў, расейцаў ды жыдоў, Вільгельм Кубэ прыкладаў усе свае магчымасьці й сувязі.

Адылі высілкі гаўляйтара былі марныя. У жніўні 1943 г., незадоўга да свае пагібелі, ён пісаў: "Ня будзе ніякіх зьмен, калі палітычнае кіраўніцтва ўсходніх абшараў на тэрыторыях, што перадаў яму фюрэр, не атрымае абсалютнага права кіраваць паліцыяй і Вэрмахтам. Дагэтуль, – апроч абяцаньняў, у якія ня верыць ужо ніхто, – мы практычна не даём анічога народам Усходу; пакуль мэтады нашага змаганьня з партызаншчынай будуць біць у невінаватае жыхарства горш за самую партызанскую навалу, пакуль будуць расстрэльваць дзяцей і жанок, датуль усе гэтыя ўчынкі будуць вісець на рахунку Міністэрства ўсходніх абшараў, райхскамісараў і генэральных камісараў. Роўным чынам, усе зычлівыя загады міністра акупаваных усходніх абшараў у галіне прыватызацыі зямельных уладаньняў, культуры ды іншага застануцца на паперы датуль, пакуль нямецкія часьці ня будуць падпрадкоўваца палітычным загадам, што будзе выдаваць толькі міністар усходніх абшараў".

З цытаванага гэтта фрагмэнту ліста Кубэ відзён ягоны погляд на варункі працы "на Ўсходзе". Бэрлін на гэта глядзеў інакш. Мясцовае жыхарства належыла трымаць на як мага найніжэйшым роўні культуры. Школы допускаліся толькі на пачатковым роўні, пры гэтым ня трэба было ўводзіць абавязковага школьнага навучаньня. Гэта пры тым, што Кубэ ад восені 1941 году запачаткаваў сетку сямікласных школ з абавязковаю й адзінаю беларускаю моваю навучаньня. У Бэрліне ж меркавалі, як, пэўна, меркавалі й мяркуюць у Маскве, што навычкі пісаньня й чытаньня шкодныя, бо даюць магчымасьць сьвятлейшым галовам спазнаваць гісторыю, а значыцца, даходзіць і да палітычнага думаньня, што магло б сваім вастрыём павярнуцца проці Нямеччыны. Таму раілася паставіць у кожнай вёсцы рэпрадуктары й перадаваць навіны, забаўляльныя праграмы й вясёлую музыку, як прывучаць людзей да самастойнага думаньня. Адначасна загад меў на ўвеце разьясьненьне грамадзкіх згуртаваньняў. На тле дырэктыў з цэнтру Кубэ ўсё рабіў па-свойму. Была створана Беларуская народная самапомач – фармальна для апекі над бяздомнымі сем'ямі, сіротамі й дзецьмі, у якіх працавалі маткі, але насамрэч абсяг дзейнасьці БНС быў шырэйшым за пытаньні сацыяльнай апекі. Былі ўтвораны беларускі Камітэт даверу, а гэтаксама Саюз беларускае моладзі, што пры канцы акупацыі задзіночваў блізка ста тысяч чалавек.

Варункі дзейнасьці беларускіх патрыётаў, якія пайшлі на супрацоўніцтва зь немцамі, былі надзвычай цяжкія. Пабудова самастойнае беларускае дзяржавы на той час была немагчыма, бо дзеля гэтага не было належных спрыяльных умоў: народ быў у летаргічным сьне, нацыянальная сьведамасьць – скутая. Нацыянальнае й дзяржаўнае абуджэньне магло надысьці толькі ў аддаленай будучыні. Таму на кантакт зь немцамі ішлі ня толькі гэткія авантурысты як Акінчыц, "нацыянал-сацыяліст" тутэйшага гатунку, але й Вацлаў Іваноўскі, Ян Станкевіч, Антон Адамовіч, якія бачылі ў немцах дачасных гаспадароў краю й спадзяваліся на перамогу заходніх аліянтаў, што, рушачы на ўсход, вызвалілі б Беларусь і ад немцаў, і не прыпусьцілі б вяртаньня бальшавікоў. Гэтыя пляны маглі быць зьдзейсьнены толькі з умоваю разважнае палітыкі Бэрліну. На жаль, нямецкія правадыры не прыпускалі аўтаноміі для "вызваленых ад бальшавікоў" народаў. Яны бачылі ўва ўсходніх абшарах неадлучную частку Вялікае Нямеччыны.

Кубэ замінаў як немцам, гэтак і саветам – сваёй прыхільнасьцяй да беларусаў. Пра гэта сьведчыць і пасьмяротная ацэна гаўляйтара, зьмешчаная ў жалобным паведамленьні Камітэту даверу, падпісаным ягоным старшынём Вацлавам Іваноўскім і намесьнікам старшыні Юрым Сабалеўскім. Гэты дакумэнт адбіваў палітычную пазыцыю большыні беларускіх нацыянальных дзеячоў таго пэрыяду: "22 верасьня памёр ад рукі баязьлівага злачынцы генэральны камісар Беларусі, гаўляйтар Вільгельм Кубэ. Вестку пра гэтую трагічную сьмерць беларусы прынялі з найглыбейшым абурэньнем. У асобе Нябожчыка беларускі народ траціць свайго найлепшага сябра й змагара за інтарэсы Беларусі. Беларусы верылі й адчувалі, што іхныя жаданьні будуць зьдзейсьнены генэральным камісарам Кубэ. Жыцьцё й дзейнасьць гэтага дзяржаўнага мужа сталася перашкодаю нашым ворагам. Таму яны стараліся яго прыбраць. У зьвязку з трагічнаю сьмерцяю гэтага чалавека беларускі Камітэт даверу выказвае ад імя беларускага народу найглыбейшае спачуваньне нямецкаму народу і ўраду Нямецкага Райху".

Факты сьведчаць: стаўленьне нямецкай цывільнай адміністрацыі да беларускае справы ў часе апошняй акупацыі было лепшае як пры савецкай уладзе. Той факт, што ў "зьняволенай" беларускай сталіцы працавалі толькі беларускія школы, а ў "вызваленай" – амаль толькі расейскія, досыць сымбалічны й не патрабуе нейкіх тлумачэньняў.

Гэтых ацэн не мяняе факт нацысцкага генацыду, паколькі ня меншаю была колькасьць ахвяр сталіншчыны.

Радавая Беларусь
© «Радавая Беларусь». Незалежная газэта.

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ: 220030, Менск, а/с 169.
ЭЛЕКТРОННАЯ ПОШТА: radavaja_bielarus@yahoo.com (кірыліцай) kryvija@mail.ru

Погляды аўтараў не заўжды супадаюць з пазыцыяй рэдакцыі. Рэдакцыя можа публікаваць артыкулы для палемікі.

Да 21.03.1933 газэта выходзіла з назовам «Савецкая Беларусь». Спасланьне на газэту «Радавая Беларусь» абавязковае.

ЗАСНАВАЛЬНІКІ: Аляксандар Карніенка, Віктар Мухін, Аўгіньня Парашчанка. ВЫДАВЕЦ: «Радавая Беларусь»
ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР ........ Віктар Мухін
ТЭХНІЧНЫ РЭДАКТАР ........ Максім Кашынскі
ЛІТАРАТУРНЫ РЭДАКТАР ........ Алена Баршчэўская
БЕЗАДКАЗНЫ САКРАТАР ........ Тацяна Папова